Гарматны В.П. Пытанне камасыцы ў праграмах палітычных партый ІІ Рэчы Паспалітай (1919 - 1939 гг.) / В.П. Гарматны // Российские и славянские исследования : науч. сб. Вып. 7 / редкол. : А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск : БГУ, 2012. С. 131-136.

**В. П. Гарматны**

# ПЫТАННЕ КАМАСАЦЫІ Ў ПРАГРАМАХ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ ІІ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ (1919—1939 гг.)

У сувязі з тым што прыкладна 66 % насельніцтва ІІ Рэчы Паспалітай (у Заходняй Беларусі каля 90 %) у 1919—1939 гг. складала сялянства, тагачасныя палітычныя партыі прапаноўвалі ўласныя варыянты ажыццяўлення ў краіне сістэмных аграрных пераўтварэнняў, у тым ліку і камасацыі [13, с. 238]. Камасацыя (хутарызацыя) — гэта адна са складаючых частак аграрнай рэформы польскіх улад, якая ажыццяўлялася на аснове закона ад 31 ліпеня 1923 г. найперш за ўсё на землях Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны з мэтай ліквідацыі цераспалосіцы і інтэнсіфікацыі сельскай гаспадаркі [11, с. 94].

Сярод польскіх дзяржаўных дзеячаў правядзенне камасацыі на заходнебеларускіх землях найбольш актыўна падтрымліваў міністр сельскай гаспадаркі і сельскагаспадарчых рэформ ІІ Рэчы Паспалітай у 1926—1930 гг., рэктар Віленскага ўніверсітэта (1933—1936) буйны землеўласнік Заходняй Беларусі прафесар Вітольд Станевіч. Ён лічыў неабходным падтрымку дзяржавай незалежных, самастойных індывідуальных хутарскіх гаспадарак. Меркаванні В. Станевіча аказалі вырашальны ўплыў на распрацоўку польскімі палітычнымі партыямі аграрнага пытання, і найперш за ўсё камасацыі [16, с. 96; 19].

Выразна сялянскай сябе пазіцыянавала ПСЛ-«Пяст» (PSL-«Piast»), створаная ў 1889 г. у Заходняй Галіцыі. Прызнаным лідарам партыі стаў Вінцэнт Вітас [4, с. 33; 17, s. 77], які па паходжанні быў селянінам і да канца жыцця вёў асабістую сялянскую гаспадарку. ПСЛ- «Пяст» падкрэслівала, што сялянства з'яўляецца асновай дзяржавы, і таму правядзенне аграрнай рэформы лічыла дзяржаўнай і нацыянальнай праблемай, «вырашэнне якой пашырыць межы дзяржавы і ўзмоцніць польскае панаванне (у паўночна-ўсходніх ваяводствах)». Партыя выступала за вырашэнне аграрнага пытання праз надзяленне ворнай зямлёй сялян з выкупам яе ў памешчыкаў [11, с. 44; 12, с. 51].

У Варшаве 20 лістапада 1921 г. была прынята праграма ПСЛ-«Пяст», у 20-м артыкуле якой адзначалася, што «прызнаючы, што камасацыя зямель польскіх вёсак, асад і мястэчак узмацняе карлікавыя гаспадаркі, ПСЛ будзе дабівацца першынства набыцця парцэляванай зямлі ўласнікамі карлікавых гаспадарак з мэтай павелічэння іх да памераў самастойных гаспадарак» [21, s. 65—66]. На надзвычайным кангрэсе ў Кракаве 28—29 лістапада 1926 г. была прынята новая праграма, якая зноў заклікала да правядзення «камасацыі і канчатковай ліквідацыі сервітутаў» [21, s. 223].

У хуткім часе (9 ліпеня 1927 г.) у Кракаве партыя прыняла гаспадарчую рэзалюцыю: у ІІ главе патрабавалася «пашырэнне паўнамоцтваў артыкула 15 закона (ад 28 снежня 1925 г.) у кірунку спрашчэння і прысляшэння перадачы да парцэляцыі (падзелу) абшараў, неабходных для надзялення зямлёй пры камасацыі карлікавых гаспадарак... узмацненне камасацыі, спрашчэнне фармальнасцей пры яе ажыццяўленні, бясплатнага і хуткага правядзення камасацыйных работ, спрашчэння выдачы крэдытаў на камасацыю, бясплатнага складання меліярацыйных планаў, а таксама ажыццяўлення тэхнічнага нагляду і беспрымусовага выкопвання адкрытых асушальных каналаў» [21, s. 271].

ПСЛ-«Вызваленне» (PSL-Wyzwolenie) узнікла ў снежні 1915 г. у выніку аб'яднання некалькіх польскіх сялянскіх палітычных арганізацый. Лідарам партыі быў Станіслаў Тугут

**Гарматный Виталий Петрович —** аспирант кафедры истории Беларуси нового и новейшего времени Белорусского государственного университета

[18, s. 239]. Партыя стаяла за стварэнне рэнтабельных сялянскіх гаспадарак, здольных забяспечваць сябе прадуктамі самастойна і пастаўляць іх на рынак, падтрымлівала эканамічна моцнага селяніна і інш. [17, s. 129] Партыя адзначала неабходнасць надзялення зямлёй сялян усходніх ваяводстваў: «Зямля павінна належаць тым, хто на ёй працуе» [2, с. 98; 20, s. 181]. Партыя 22 лютага 1919 г. у Варшаве прыняла дэкларацыю ў справах адносін да ўраду. Паводле дэкларацыі, «усе духоўныя, дзяржаўныя землі, маяраты, землі былых дынастычных асоб павінны быць падзелены праз дзяржаву паміж беззямельнымі і малазямельнымі (сялянамі) ва ўласнасць за выкуп па вызначанаму кошту» [21, s. 15].

Па сваіх мэтах і метадах дзейнасці ПСЛ-«Пяст» і ПСЛ-«Вызваленне» былі вельмі блізкія, належалі да ліберальна-дэмакратычнага лагера, карысталіся значным уплывам і папулярнасцю сярод заходнебеларускага сялянства, выступалі за паступовае ажыццяўленне аграрнай рэформы. Партыі ў многіх выпадках дзейнічалі сумесна, а ў 1931 г. разам з Сялянскай партыяй (Stronnictwo Chlopske) аб’ядналіся ў «Народную партыю» (Stronnictwo Ludowe) [10, с. 187]. Прынятая праграма новай партыі прадугледжвала галоўнай мэтай аграрнай рэформы надзяленне зямлёй карлікавых гаспадарак, а таксама камасацыю.

Польская партыя сацыялістычная (PPS, ППС) выказвалася за нацыяналізацыю ўсіх вялікіх гаспадарак і надзяленне з дапамогай крэдытаў сялян і кааператываў зямлёй праз камасацыю і меліярацыю [5, с. 8]. ППС выступала супраць незаконных дзеянняў сялян, але патрабавала зніжэння кошту прадаваемай падчас аграрнай рэформы зямлі і працягу тэрміну выплаты сялянамі пазыкі на куплю ворнай зямлі [12, с. 52]. На з’ездзе левага крыла ППС 1 чэрвеня 1919 г. быў прыняты праект правядзення дзяржавай прымусовай парцэляцыі вялікіх зямельных уладанняў царскіх, духоўных і прыватных маёнткаў на карысць малазямельнага і беззямельнага сялянства. Пабудову рэформы дзякуючы ажыццяўленню камасацыі прапаноўваў адзін з лідараў ППС Норберт Баліцкі. На неабходнасць задавальняючага вырашэння зямельнага пытання ў паўночна-ўсходніх ваяводствах II Рэчы Паспалітай звяртаў увагу Мечыслаў Недзялкоўскі. Большасць жа выказванняў дзеячаў ППС па аграрным пытанні заставаліся неканкрэтнымі [2, с. 98].

Асобнае месца ў вызначэнні аграрнага пытання ў праграме ППС займалі пастановы яе XIX кангрэса, які праходзіў у снежні 1923 — студзені 1924 г. [14, с. 73]. Спецыяльная рэзалюцыя прадугледжвала канфіскацыю памешчыцкай зямлі, усталёўвала максімум землеўладання (180 га) і вызначала памер парцэл (5—15 га). Зямля павінна была бясплатна перадавацца сельскагаспадарчым рабочым, якія адпрацавалі ў парцэляваных маёнтках не менш 25 гадоў, з прадастаўленнем дзяржаўнага крэдыта на распачатак гаспадаркі і чыншавікам [3, с. 309]. Летам 1924 г. аграрная праграма ППС істотна змянілася, што было выклікана эвалюцыяй партыі ў правым кірунку [14, с. 73]. Галоўнай мэтай зямельнай рэформы ППС лічыла павелічэнне памераў карлікавых гаспадарак шляхам бясплатнай канфіскацыі памешчыцкіх зямель звыш неабходнага для існавання мінімуму, парцэляцыю сярод бяднейшага сялянства і інш. [15, с. 43].

Сярод партый кансерватыўнага напрамку найбольшы ўплыў меў Народна-нацыянальны саюз (ZLN, ННС, «нацыянал-дэмакраты»), які ўзнік у маі 1919 г. Па аграрным пытанні нацыянал-дэмакраты падтрымлівалі ажыццяўленне дабраахвотнай парцэляцыі, ставілі галоўнай мэтай «захаванне асновы прыватнай уласнасці і эканамічнай свабоды» і «дабіваліся паляпшэння структуры землеўладання шляхам выдалення празмерных супрацьлегласцей і стварэння шматлікіх заможных гаспадарак». Стварэнне эканамічна самастойных хутарскіх гаспадарак з’яўлялася мэтай аграрнай палітыкі ННС, які катэгарычна выступаў супраць вызначэння норм, якія б абмяжоўвалі памер землеўласніцкай гаспадаркі, і супраць рэгулявання дзяржавай цэн на зямельныя надзелы. Праграма ННС, прынятая ў 1919 г. і пашыраная ў 1924—1926 гг., патрабавала, каб аграрная рэформа «аблягчала стварэнне буйных сялянскіх гаспадарак, а не тармазіла б іх развіццё забаронаю пакупкі зямлі больш вызначанай нормы»

[4, с. 30]. ННС прызнаваў за дзяржавай права на прымусовы выкуп зямлі ў такіх буйных гаспадарках, дзе апрацоўка глебы не адпавядала тагачаснаму ўзроўню вядзення сельскай гаспадаркі. Праграма ННС патрабавала, каб аграрная рэформа ахапіла ў першую чаргу дзяржаўныя землі і зусім не чапала «сярэдніх маёнткаў, асновы сельскагаспадарчага развіцця будучых гаспадарак» [10, с. 103].

17 мая 1923 г. на сустрэчы кіруючых колаў ПСЛ-«Пяст», ННС і хрысціянскіх дэмакратаў у маёнтку Ланцкарон, які належыў сенатару Людвіку Гамерлінгу, была падпісана дамова аб сумесных намаганнях («Ланцкаронскі пакт»), у якой адзначалася, што «ў сферы сельскай гаспадаркі неабходна як мага хутчэйшае правядзенне аграрнай рэформы, ажыццяўленне меліярацыі і камасацыі зямель і прызнанне сельскай гаспадаркі як асновы нацыянальнага эканамічнага развіцця...» [21, s. 84].

Адною з самых масавых і ўплывовых грамадска-палітычных арганізацый Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд была Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), створаная ў маі 1917 г. у Петраградзе як Хрысціянска-дэмакратычная злучнасць. На чале хрысціянскіх дэмакратаў («хадэкаў») стаялі ксяндзы беларускага паходжання Фабіян Абрантовіч, Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі і іншыя. У дыскусіях па формах і метадах тагачаснага сялянскага землекарыстання Заходняй Беларусі БХД займала выразную пазіцыю падтрымкі польскай урадавай палітыкі камасацыі пры ўмове згоды сялян на сваіх сходах і абавязковай дапамогі хутаранам з боку дзяржавы: «БХД змагаецца за такое ўпарадкаванне зямлі і за такую зямельную гаспадарку, якая давала б найбольш прыбытку грамадству і дзяржаве. Такой гаспадаркай БХД лічыць працу на хутарах ці на супольных зямельных надзелах (водрубах)» [16, с. 87]. Прыхільнікі БХД неаднаразова звярталі ўвагу на такія адмоўныя бакі вядзення сельскай гаспадаркі ў вёсцы, як «цяжкасць апрацоўкі зямлі, залежнасць ад суседзяў» — гэтага можна было б пазбегнуць пры выхадзе сялян на хутар. Разлікі хрысціянска-дэмакратычных эканамістаў паказвалі, што калі пры вядзенні гаспадаркі на асобных надзелах («шнурах») ураджайнасць збожжавых складала 30—40 пудоў з 1 гектара зямлі, то пры выхадзе на хутар яна павінна была павысіцца мінімум удвая. БХД адзначала, што для малазямельных сялян пераход на хутар без дапамогі дзяржавы заставаўся вельмі цяжкай і амаль немагчымай справай [16, с. 87].

Беларуская хрысціянская дэмакратыя выдавала газету «Беларуская крыніца» (Belaruskaya kryniсa) і сельскагаспадарчы часопіс «Саха», на старонках якіх часта разглядаліся актуальныя пытанні становішча сельскай гаспадаркі ў Заходняй Беларусі [9, с. 78, 82]. Адным з самых значных даследаванняў па ацэнцы стану развіцця сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі стала праца Антона Пінчука (Пінкевіча) «Сучаснае палажэнне беларускай вёскі» («Беларуская крыніца», 1935, № 19, 32). Так, адзначалася, што ў заходнебеларускай вёсцы ішоў працэс хуткага драблення сялянскіх гаспадарак з адначасовым павелічэннем насельніцтва, з-за чаго замаруджвалася рацыяналізацыя сельскагаспадарчай вытворчасці. Па меркаванні А. Пінчука, хутарызацыя павінна была ісці паралельна з прырэзкамі зямлі і сутнаснай дзяржаўнай дапамогай.

На старонках перыядычных выданняў БХД даказвалася немагчымасць эфектыўнага вядзення асабістай сялянскай гаспадаркі пры цераспалосіцы (у Заходняй Беларусі існавала шнуравая сістэма). Паводле меркаванняў кіраўніцтва БХД, «хутарская сістэма — гэта ідэальная сістэма сялянскай гаспадаркі, дзякуючы якой селянін можа свабодна прымяняць тэхнічныя ўдасканаленні, мінеральныя ўгнаенні», а галоўнае, што гэтай сістэмай можа быць дасягнуты «поўны спакой сялянства» [10, с. 271]. Галоўную прычыну беднасці тагачасных сялян Заходняй Беларусі кіраўніцтва БХД бачыла ў іх малазямеллі і неналежным планаванні развіцця гаспадаркі: «Гаспадар, які вядзе гаспадарку без плана, ніколі не даб'ецца станоўчых вынікаў» [10, с. 271]. У якасці станоўчага вопыту падаваліся сельскія гаспадаркі скандынаўскіх краін і асабліва Даніі [16, с. 88].

У цесным саюзе з БХД дзейнічаў Беларускі сялянскі саюз (БСС), які быў створаны пасламі Сейма II Рэчы Паспалітай Васілём Рагуляй і Фабіянам Ярэмічам у лістападзе 1925 г. пасля расколу Беларускага пасольскага клуба ў супрацьвагу ўплыву на сялянства КПЗБ і БСРГ [3, с. 311]. У 1926 г. кіраўніцтва БСС распрацавала і накіравала ў Савет Міністраў мемарыял па пытанні ўздыму вытворчых сіл заходнебеларускай вёскі. У ім прапаноўвалася ўлічваць пры правядзенні камасацыі патрэбы малазямельных сялян шляхам прадастаўлення ім неабходнага мінімуму зямлі і інвентара для магчымасці паспяховага вядзення самастойнай гаспадаркі, а пры ліквідацыі сервітутаў — захаванне ўсіх сялянскіх правоў з наступным іх выкарыстаннем [16, с. 83—84].

В. Рагуля, Ф. Ярэміч і шмат іх палітычных прыхільнікаў паслядоўна абгрунтоўвалі неабходнасць пераходу заходнебеларускіх сялян на хутарскую форму вядзення ўласнай гаспадаркі і ўпэўнена звязвалі гэта з перавагай малых форм вытворчасці ў сельскай гаспадарцы. Як адзначалася на старонках перыядычнага выдання БСС «Сялянская ніва» за 15 снежня 1926 г., «Беларускі сялянскі саюз імкнецца да таго, каб у Беларусі стварыць моцную сялянскую клясу... Нашаму селяніну найбольш падыходзіць тып самастойнай хутарскай гаспадаркі... Хутарская гаспадарка павінна даць столькі земляробчых прадуктаў, каб іх хапіла на свае патрэбы, ды яшчэ лішак быў праданы ў месца. На атрыманыя ад продажы земляробскіх прадуктаў грошы селянін можа сабе купляць прамысловыя тавары: прылады, машыны, штучныя гнаі, мануфактуру і іншыя патрэбныя селяніну рэчы...». Паводле меркаванняў лідараў БСС, «перш за ўсё жыцьцё на хутары дае ўласьніку гэткія выгады: менш ідзе працы і часу на яго апрацоўку і большая карысць, праз некалькі год жыцьця на хутары матар'яльнае становішча (сялян) значна паляпшаецца. Поўная свабода гаспадару дзеля прылажэньня да гаспадаркі ўсёй навучнай земляробскай тэхнікі, ня гэтак страшны розныя няшчасці, як пажар, эпідэмія і інш. Поўны духоўны спакой чалавеку, няма месца сварыцца, лаяцца з суседзьмі» [1, с. 30—31]. На думку кіраўніцтва БСС, весці свабодна хутарскую гаспадарку заходнебеларускаму селяніну «па сваёй прыродзе і ідэалогіі не змогуць даць ні савецкая, ні польская буржуазная ўлада».

На Другой канферэнцыі БСС (ліпень 1927 г.) Васіль Рагуля выступіў з дакладам па аграрным пытанні, пасля чаго была прынята адпаведная рэзалюцыя. У праграме адзначалася, што «ўсе нетрудавыя землі: абшарніцкія, дзяржаўныя, касцёльныя, царкоўныя і іншыя павінны перайсці ў рукі беларускіх беззямельных і малазямельных сялян», а працоўная норма ўяўлялася тыпам самастойнай хутарскай гаспадаркі [3, с. 311]. Адрозненне хутара ад вёскі бачылася ў незалежным ад вяскоўцаў гаспадаранні хутараніна [16, с. 82].

Правядзенне камасацыі пры ўмове аказання ўрадам усялякай дапамогі хутаранам падтрымлівала і Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ, дзейнічала ў 1925—1927 гг., лідар Браніслаў Тарашкевіч) [5, с. 8]. Яна падтрымлівала перасяленне сялян з вёсак на хутары або на пасёлкі, але пры ўмове, што «малазямельным зробіцца прырэзка зямлі, каб яны маглі вясьці запраўды самастойную гаспадарку...», што будзе аказана дапамога грашыма, інвентаром, будаўнічымі матэрыяламі (праграма 12 мая 1926 г.). У цэлым па аграрным пытанні БСРГ стаяла за развіццё індывідуальных сялянскіх гаспадарак і падтрымку ўрадавай палітыкі камасацыі, за што падверглася рэзкай крытыцы з боку Кампартыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), якая ўбачыла «яскрава выражаны кулацкі ўплыў на праграму Грамады ў пункце аб землеўпарадкаванні» [6, арк. 121].

Рэзка супраць ажыццяўлення на землях Заходняй Беларусі камасацыі выступала толькі Камуністычная партыя Польшчы і яе складаючая частка КПЗБ. Кіраўніцтва КПП і КПЗБ ставілася да ажыццяўляемай польскімі ўладамі аграрнай рэформы адназначна адмоўна і арганізоўвала і ўзначальвала сялянскі рух [1, с. 310]. Асноўным лозунгам КПЗБ заставаўся «Зямля без выкупу — сялянству!», але потым ён быў дадаткаваны патрабаваннем нацыяналізацыі памешчыцкай зямлі [9, с. 142]. У рэзалюцыі I з'езда КПЗБ (1928 г.) адзначалася, што

барацьбу за зямлю без выкупу патрэбна разгарнуць вакол штодзённых патрэб вёскі — зямельны голад, перанаселенасць, падаткавы гнёт, парцэляцыя, ліквідацыя сервітутаў, камасацыя і інш. Падкрэслівалася, што «камасацыя без адначасовага надзялення (сялян) зямлёй пагаршае становішча асноўных мас сялянства, бо пазбаўляе іх магчымасці карыстацца грамадскімі выганамі і такім чынам з'яўляецца фактарам, які вядзе да разарэння і ліквідацыі самастойнай гаспадаркі, да продажу свайго надзелу заможным суседзям» [8, арк. 29]. Увогуле ў рэзалюцыі сцвярджалася, што ў сваёй большасці сяляне не зацікаўлены ў тым, каб перайсці на хутары, бо для гэтага неабходны значныя фінансавыя сродкі [7, арк. 104].

На II з'ездзе КПЗБ (1935 г.) была выпрацавана новая тактыка партыі і перагледжаны адносіны да аграрнага пытання. «Партыя арганізуе барацьбу сялянскіх мас, — сцвярджалася ў рэзалюцыі з'езда, — на аснове канкрэтных частковых патрабаванняў у галіне падаткаў, шарваркаў, рынкавых выплат, запазычанасцей, камасацыі, адпрацовак, арэнды і г. д. ...Праз частковую барацьбу партыя вядзе сялян да аграрнай рэвалюцыі». Камуністычная партыя стаўку рабіла на арганізацыю забастовак і аказанне супраціву пры правядзенні камасацыі і ліквідацыі сервітутаў. На старонках сваіх перыядычных выданняў КПЗБ паказвала аграрную палітыку польскіх улад з рэзка негатыўнага боку: маўляў, увесь час узмацняецца эксплуатацыя сялян уладамі, што праяўляецца перш за ўсё ў адпрацоўках, парцэляцыі, ліквідацыі сервітутаў, камасацыі і г. д. [12, с. 139]. Камасацыя разглядалася як правядзенне хутарызацыі капіталістычнымі метадамі, а парцэляцыя — як раздача зямлі польскім вайскоўцам, асаднікам і мясцовым заможным сялянам [16, с. 95].

Падводзячы вынікі, неабходна адзначыць, што абсалютная большасць польскіх і беларускіх палітычных партый II Рэчы Паспалітай у 1919—1939 гг. падтрымлівала правядзенне ў Заходняй Беларусі камасацыі і надзяленне зямлёй шырокіх мас сялянства. Тагачасныя польскія палітычныя партыі падтрымлівалі камасацыю пры ўмове спалучэння аграрнай рэформы з адначасовым ажыццяўленнем паланізацыі і заклікалі сялян дачакацца вырашэння аграрнага пытання ў рамках закона. Беларускія нацыянальныя палітычныя арганізацыі (БХД, БСС, БСРГ і інш.) выступалі за правядзенне камасацыі, але пры ўмове разнастайнай матэрыяльнай падтрымкі з боку дзяржавы выходзячым на хутар сялян. Рэзка супраць камасацыі выступалі толькі КПП і КПЗБ, якія прапаноўвалі ажыццяўленне ў Заходняй Беларусі аграрных пераўтварэнняў па савецкім прыкладзе з надзяленнем сялян памешчыцкай зямлёй без выкупу.

## ЛІТАРАТУРА

1. *Багданскі, Я.* Аб клясавай барацьбе ў Заходняй Беларусі ў часы БСРГ / Л. Бабровіч, Я. Багданскі. Мінск : Беларуская акадэмія навук, 1932. 72 с.

2. *Гамулка, К.* Паміж Польшчай і Расіяй: Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фарміраванняў (1918—1922) / К. Гамулка. Вільня : Gryf, 2008. 256 с.

3. *Гарматны, В. П.* Аграрнае пытанне ў праграмах палітычных партый Другой Рэчы Паспалітай (1921—1939 гг.) / В. П. Гарматны // Грамадскія рухі і палітычныя партыі ў Беларусі (апошняя чвэрць XIX — пачатак XXI ст.): матэрыялы рэсп. навук. канф. (Гродна, 23—24 кастрычніка 2008 г.). Гродна : ГрДУ імя Янкі Купалы, 2009. С. 308—312.

4. *Гецевич, А. К.* Деятельность польских политических партий и организаций в Западной Беларуси (1918—1926 гг.) / А. К. Гецевич. Гродно : ГрГУ, 2010. 139 с.

5. *Грэсь, С. М.* Аграрнае пытанне ў праграме асноўных польскіх палітычных партый у 1921—1939 гг. / С. М. Грэсь // Веснік Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Серыя 1. 2005. № 4. С. 6—11.

6. Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НАРБ). Ф. 242 п. Воп. 1. Спр. 101 — Материалы об экономическом положении Западной Белоруссии, экономическом, национальном и политическом гнете польского правительства на Западной Белоруссии.

7. НАРБ. Ф. 242п. Воп. 1. Спр. 184 — Стенограмма I съезда КПЗБ. Том II.

8. НАРБ. Ф. 242п. Воп. 1. Спр. 194 — Резолюции I съезда КПЗБ.

9. Палітычныя партыі Беларусі. Мінск : Згода, 1994. 262 с.

10. Политические партии в Польше, Западной Белоруссии и Западной Украине / под ред. С. Скульского. Минск : Изд-во Белорусской академии наук, 1935. 336 с.

11. *Полуян, В. А.* Революционно-демократическое движение в Западной Белоруссии (1927—1939 гг.) / В. А. Полуян. Минск : Навука і тэхніка, 1978. 360 с.

12. *Сорокин, А. А.* Аграрный вопрос в Западной Белоруссии (1920—1939 гг.) / А. А. Сорокин. Минск : Навука і тэхніка, 1968. 204 с.

13. *Титова, А. А.* Позиции польских политических партий в Сейме по вопросу об аграрной реформе (ноябрь 1922 г. — май 1923 г.) / А. А. Титова // Проблемы всеобщей истории. М. : МГУ, 1976. С. 235—246.

14. *Титова, А. А.* Позиция Польской социалистической партии по вопросу аграрной реформы в 1924—1925 годах / А. А. Титова // Советское славяноведение. 1984. № 6. С. 72—76.

15. *Титова, А. А.* Проблема аграрной реформы в польском Сейме (июнь—декабрь 1923 г.) / А. А. Титова // Советское славяноведение. 1984. № 6. С. 39—51.

16. Экономическая мысль в Западной Беларуси в 1921—1939 гг. / под науч. ред. П. Г. Никитенко. Минск : Право и экономика, 2004. 158 с.

17. *Brzoza, Cz.* Polska w czasach niepodległości i Drugiej Wojny Światowej (1918—1945) / Cz. Brzoza. Kraków : Fogra, 2001. 424 s.

18. Historia chlopów polskich / pod red. S. Inglota. Wrocław : Wydawnictwo Uniwersytetu Wrocławskiego, 1995. 395 s.

19. *Lapa, M.* Problemy przebydowy strukturalnej rolnictwa polskiego w latach 1926—1930. Program agrarny Witolda Staniewicza / M. Lapa // Acta Universitatis Lodziensis. Folia Historica 66. Historia Polski XIX—X wieku / pod red. P. Samusia. Łódź : Wydawnictwo Uniwersytetu Łódzkiego, 1999. S. 119—140.

20. *Madajczyk, Cz.* Burzuazyjno-obszarnicza reforma rolna w Polsce (1918—1939) / Cz. Madajczyk. Warszawa : Książka i Wiedza, 1956. 465 s.

21. Materiały źródłowe po historii Polskiego ruchu ludowego. Tom II. 1918—1931 / Zebrali i oprac. S. Giza i S. Lato. Warszawa : Ludowa Społdzielnia Wydawnicza, 1967. 542 s.

## РЕЗЮМЕ

Рассматривается вопрос комасации (хуторизации) в программах политических партий II Речи Посполитой в 1919—1939 гг., показана необходимость аграрной реформы и подходы к ее осуществлению наиболее влиятельных и массовых польских и белорусских политических организаций рассматриваемого периода. Главною целью комасации должно было стать создание экономически сильных, рыночно ориентированных фермерских хозяйств.

## SUMMARY

The article tells about the question of comasation (farmstead plantation) in the programs of the political parties II Rzeczypospolitej in 1919—1939, shows the necessity of agrarian reform and ways of its realization of the most influential and numerous Polish and Belarusian political organizations of this period. The main aim of comasation was the creation of wealthy farmer market oriented economies.

Статья поступила в редакцию 6 сентября 2011 г.